*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 4 (543)    23 СТУДЗЕНЯ 2002 г.

# Другі фестываль недзяржаўнай прэсы



Стэнды газет ТБМ "Наша слова" і "Тэлескоп" на фестывалі

18 студзеня ў Менску прайшоў Другі фестываль недзяржаўнай прэсы. У фестывалі ўзялі ўдзел больш 30 газетаў ад такіх грандаў, як "Народная воля" да гарадскіх і раённых газетках з глыбокай правінцыі. Геаграфія была самая шырокая. Былі рэпразантаваны усе вобласці і, вядома, Менск. Арганізатарамі фестывалю высту-



Слова мае Прэзідэнт БАЖ
Жанна Ліцьвіна

палі Беларуская асацыяцыя журналістаў і Фонд падтрымкі і развіцця рэгіянальнай прэсы.

"Наша слова" рэпразантавалі рэдактар Станіслаў Суднік і сталы чытач ды аўтар газеты бард Пятро Русаў. Пятро Русаў выканаў песню пра князя Барыса Гінвілавіча Полацкага з цыклу "Спевы пра даўніх ліцьвінаў", які друкуецца ў "Нашым слове".

Эмблемай фестывалю была абрана жабка. Штурхнула да эмблемы чытанне наадварот слова БАЖ, але эмблема нечакана аказалася напоўненай вялікім сэнсам паводле прыпавесці, у якой адна жабка трапіўшы ў збан з малаком патанула, а другая пачала лупіць лапкамі, збіла грудку масла і ўселася на яго. Таму эпіграма ад ТБМ, прадстаўленая на конкурс:

***Журналісты ўсіх масцей,***
***Біце лапамі часцей, –***

хоць і не заняла першага месца, але была мабыць самай актуальнай, бо калі газета не будзе біць лапамі, то патоне.

На фестывалі было праведзена ўручэнне прэміі імя Анатоля Майсені. Першую прэмію атрымаў **Ніл Гілевіч**, другую - **Марына Коктыш**, трэцюю - **Вадзім Казначэеў**.

2002 год пачаўся з шыхтовага агляду недзяржаўнай прэсы. А наперадзе бесперапынная бітва за інфармацыю і чытача.



Падчас прэзентацыі газеты "Наша слова" выступае бард Пятро Русаў

**Заява Сакратарыяту**
**Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны**

## *Голас душы павінен гучаць*

Цягам васьмі гадоў па першай праграме Беларускага радыё гучала духоўная перадача "Голас душы". Яе чакалі і слухалі не толькі каталікі, але і вернікі іншых канфесіяў. На вялікі жаль, перад каталіцкімі Калядамі духоўная праграма знікла з эфіру. Тысячы вернікаў былі пазбаўленыя магчымасці ўдзельнічаць у набажэнстве, якое лекавала немоглых, давала моц, натхняла і ўзвышала.

Таварыства беларукай мовы абуранае нечаканымі дзеяннямі ўлад, па загаду якіх зліквідавана патрэбная народу духоўная перадача, і патрабуе аднавіць трансляцыю перадачы "Голас душы" з касцёла Святых Сымона і Алены.

17 студзеня 2002 г.

## *Заява грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне"*

*Сойм БНФ рашуча асуджае забарону на беларускім дзяржаўным радыё хрысціянскай перадачы "Голас душы". Паліцэйскі акт яскрава сведчыць аб поўным ігнараванні сённяшнім рэжымам элементарных правоў і свабод чалавека. Але гэта не толькі здзек з сумлення і права на атрыманне інфармацыі. Гэта цяжкі ўдар па духоўным адраджэнні беларускага народа, бо "Голас душы" быў адзіную рэлігійнаю перадачаю на беларускай мове, якую любілі і слухалі мільёны людзей.*

*Мы патрабуем неадкладнага вяртання ў эфір перадачы "Голас душы" і пакарання чыноўнікаў, што аддавалі загад аб яе забароне.*



У Чырвоным касцёле жалоба па перадачы "Голас душы"

## Беларускія пісьменнікі гучаць па-нямецку

Летась тры нашыя пісьменнікі праехалі праз 11 краін Еўропы, несучы наша прыгожае, сакавітае беларускае слова ў Партугалію і Мадрыд, у Гановер і Парыж. І вось выйшла кніга "Еўропаэкспрэс", якая складаецца з натакаў пра падарожжа, з пісьменніцкіх развагаў пра сённяшняе жыццё. У яе ўвайшлі і творы сябра нашай Рады, старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгі Іпатавай, а таксама Леаніда Дранько-Майсюка і Андрэя Федарэнкі. Кніга гэтая выдадзеная на нямецкай мове, але неўзабаве павінны выйсці яе англамоўныя ў іспанамоўныя варыянты (увогуле яе плануюць выдаць на мовах сарака трох краін свету).

"Блакіт свабоды" – гэтая шматзначная назва, якую дала свайму эсэ Вольга Іпатава, яскрава абазначае тэму твора, які будзе перакладзены на многія еўрапейскія мовы.

Наш.кар.

**На паэтычную вечарыну**
**Па кнізе ЗЯНОНА "ГЛЁРЫЯ ПАТРЫЯ"**
**ЗАПРАШАЮЦЬ**
**сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ. Збіраймася ў памяшканні ТБМ (вул. Румянцава, 13) 25 студзеня 2002 г. а 18-й гадзіне.**

# У Курапатах – урачыстасць

15 студзеня быў пераўсталяваны мемарыяльны знак, устаноўлены Білам Клінтанам 15 студзеня 1994 года на месцы пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій ва ўрочышчы Курапаты.

Тады, восем гадоў назад, мне пашчасціла браць удзел у сустрэчы Прэзідэнта ЗША Біла Клінтана на курапацкай зямлі. Мяне, завуча беларускай гімназіі, амерыканская амбасада запрасіла арганізаваць харавую групу дзяцей для выканання гімна "Магутны Божа". Для маіх гімназістаў амерыканцы зладзілі вялізны цёплы тэнт з печкай, гарбатай, кавай і прысмакамі. З сваёй місіяй дзеці справіліся выдатна і праз некаторы час атрымалі з Белага дома кожнаму фотаздымак на памяць і асабісты ліст Клінтана з падзякай.

Было вельмі скрушна чуць, што вандалы разбілі лавачку, што ў месцы гвалтоўнага спачыну тысячу беларускіх людзей праз больш чым паўстагоддзя няма спакою, пакаяння і прымірэння, што гвалт і разбурэнне працягвае існаваць на нашай зямлі.

Разам з тым, суцяшае надзея, што не ўвесь народ ператварыўся ў насельніцтва, што вось аўтар мемарыяльнага знака скульптар Алесь Шатэрнік адшукаў пабітыя часткі, адрэстаўраваў, і гісторыя пераўсталявання падарунка ад амерыканскага народа, пацярпелага ад тэрарыстаў, набыла сімвалічны змест, важкі сваёй значнасцю для будучыні Беларусі. Гэтак сама як і гісторыя абароны Курапатаў ад чыноўніцкай бяздумнасці ды бульдозерных атак.

Так яны і супалі, гэтыя дзве значныя гістарычныя падзеі. І сярод журналістаў, палітыкаў, грамадскіх дзеячоў, што прыйшлі ў Курапаты, шмат было тых хлопцаў, якія днююць і начуюць у палатцы, абараняючы гонар знішчаных продкаў.

Амбасадар ЗША Майкл Козак, які ініцыяваў пераўсталяванне Мемарыяльнага знака, нагадаў усім нам, што дэмакратыя найлепшая абарона ад жудасных злачынстваў, а верш Янкі Купалы, прамоўлены амерыканскім пасланцам, вярнуў у змрочную мінуўшчыну, калі мы "жылі не ў лад і неўпапад", калі хтось "плечы гнуў у крук не раз" і "усёй магчымасці магчымай таптаў сляды, сябе таптаў". І падумалася, што нас як бы хто закляў, што вось ужо амаль сто гадоў не мяняецца ўгнутая пастава беларуса, што словы Купалы пісаныя быццам учора. І ў той жа час бачу твары абаронцаў Курапатаў, успамінаю слаўныя імёны найноўшай гісторыі, бачу, як хутка растуць шэрагі нашай арганізацыі, як з кожным годам павялічваецца грамада тых, каму надакучыла бязладдзе. І ўспамінаюцца словы былога амерыканскага амбасадара Ялавіца, якія той прамовіў у Курапатах: "Мы вам дапамагаем, але ратаваць сябе можаце толькі вы, сваімі рукамі".

Успамінаю паказальны урок абароны сваёй годнасці, пададзены мне маім амерыканскім сябрам Джонам. Калі той госцячы ў мяне пабачыў на падзячным лісце ад Клінтана да мяне няправільна выпісаную назву нашай краіны – замест Рэспубліка Беларусь напісана Расія – адразу ж пайшоў у сваю амбасаду і даслаў ліст Клінтану з поглядам свае нязгоды. А я тады і не заўважыла нават гэтае прыкрай неадпаведнасці, не тое што ушчаць актыўныя дзеянні. Сёння ж цешуся з хай хоць і нешматлікіх, але галасоў у абарону назвы нашай дзяржавы супроць састарэлай "Белоруссия".

Там жа, у Курапатах, цешылася галасамі маладых дзяўчат з хору Чырвонага касцёла "Голас душы" (кіраўнік Таццяна Гажэўская), якія пекна разлівалі срэбра мелодыі і слоў гімна "Магутны божа", касцёльных песень.



У час цырымоніі 15 студзеня 2002 года. **Фота Віктара Талочкі, БелТА.**



15. 01 1994 г. Сустрэча Б. Клінтана ў Курапатах. **Фотаздымак, прысланы з Белага дома**



Студзень 1994 года. Б. Клінтан, С. Шушкевіч і сённяшні міністр замежных спраў Міхаіл Хвастоў на фоне дзяржаўнага сцяга Беларусі. **Фота Уладзіміра Кармілкіна.**




Студзень 1994 года. Мемарыяльны знак у Курапатах. **Фота Уладзіміра Кармілкіна.**



15 студзеня 1994 года. С. Шушкевіч, Б. Клінтан, З. Пазьняк размаўляюць з грамадзянамі Беларусі ў Курапатах. **Фота Уладзіміра Кармілкіна.**

# У Курапатах – урачыстасць



*"Упершыню мы маем магчымасць пераадолець падзел Еўропы і стварыць супольнасць, дзе дачыненні грунтуюцца на павазе суверынітэту і непарушнасці межаў: дзе ўсе грамадзяне роўныя, а палітычныя рашэнні прымаюцца бальшынёю з абавязковым улікам і абаронаю правоў меншыні; дзе свабодны гандаль забяспечвае дабротамі вольнага рынку ўсіх людзей, што жывуць ва ўсё больш узаемазалежным свеце".*

З прамовы прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Біла Клінтана ў Акадэміі навук Беларусі 15 студзеня 1994 года.

THE WHITE HOUSE

WASHINGTON

March 25, 1994

Ms. Lyudmila Dzitsevich
School 199
Minsk, Russia

Dear Lyudmila:

Thank you so much for all of your help during my trip to Minsk. Your efforts contributed significantly to the success of my visit.

I hope to visit Minsk again soon.

Sincerely,

Bill Clinton

Ліст з падзякай ад Біла Клінтана да сённяшняга першага намесніка Старшыні ТБМ Людмілы Дзіцэвіч. Ліст падпісаны прэзідэнтам ЗША 25 сакавіка 1994 года.

Спадзяюся, што мы сапраўды ўсе разам супрацьстаім нянавісці і гвалту, як сказаў на ўрачыстым мітынгу ў Курапатах намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сычоў, спадзяюся, што ў сэрцах і простых грамадзянаў, і адказных чыноўнікаў жыве гонар за сваю краіну, спадзяюся, што ўсім нам хопіць сілаў, каб абараніць ад вандалаў не толькі Курапаты і Беларусь, але і ўсю Зямлю. Бо, як кажа наш класік, "суд гісторыі цяжкі!".

*Людміла Дзіцэвіч, першы намеснік старшыні ТБМ.*

ПРАКУРАТУРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
220050 г. Мінск, ГСП
вул. Інтэрнацыянальная, 22
тэл. 226-43-57, факс 226-42-52
206-55-41 226-41-67



ПРОКУРАТУРА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
220050, г. Минск, ГСП
ул. Интернациональная, 22
тел. 226-43-57, факс 226-42-52
206-55-41 226-41-67

07.12.2001 г.
14/146-97

**Старшыні Грамадскага аб'яднання ТБМ імя Ф.Скарыны
Трусаву А.
вул. Румянцава, 13
220005, г. Менск**

Пракуратурай Рэспублікі Беларусь разгледжаны Ваш зварот з просьбай пра абнародаванне вынікаў дадатковага расследавання матэрыялаў крымінальнай справы, узбуджанай у 1988 г. па факту выяўлення пахаванняў людзей ва ўрочышчы "Курапаты" поблізу ад Менскай кальцавой аўтамабільнай дарогі.

Матэрыялы крымінальнай справы з самага пачатку яго расследавання асвятляліся ў друку. Арганізоўваліся публікацыі ў газетах і часопісах, выступленні па радыё і тэлебачанні, выдадзена кніга. Вынікі расследвання шырока выкарыстоўваліся ў палітычнай барацьбе. Узніклі дыскусіі, спрэчкі. У пракуратуру рэспублікі пачалі паступаць звароты ад імя грамадскіх аб'яднанняў і асобных грамадзян, у якіх выказваліся сумненні ў вывадах следства пра тое, што ў пахаваннях знайходзяцца толькі ахвяры палітычных рэпрэсій і прыводзіліся аргументы на карысць таго, што расстрэлы людзей у "Курапатах" маглі праводзіцца таксама і нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў гады Айчыннай вайны. Гэтыя версіі былі распрацаваны пры першапачатковым расследаванні крымінальнай справы недастаткова глыбока.

У сувязі з гэтым у верасні 1997 г. пастанова пра спыненне справы была адменена і аднаўлена вытворчасць па справе.

Як першапачатковым, так і дадатковым расследваннем устаноўлена, што ў 1937-1940 гадах органамі НКУС з месцаў заключэння вывозіліся ва ўрочышча "Курапаты" людзі і там расстрэльваліся.

Разам з тым маецца шэраг паказанняў сведкаў, якія сцвярджаюць са спасылкамі на іншых асобаў, што ва ўрочышчы "Курапаты" расстрэлы людзей праводзілі таксама і нямецкія акупацыйныя ўлады ў перыяд Айчыннай вайны. Аднак іх немагчыма пацвердзіць аб'ектыўнымі звесткамі. Пошукі неабходнай інфармацыі па гэтым пытанні ў архіўных установах рэспублікі і ў Расіі аказаліся безпаспяховымі.

Пры дадатковым расследванні справы былі арганізаваны раскопкі 23 меркаваных пахаванняў. Пры гэтым толькі ў 9 з іх аказаліся чалавечыя парэшткі. Астатнія ўпадзіны, прызнаныя раней пахаваннямі, насілі характар натуральнага паходжання і пахаваннямі не з'яўляліся. На гэтай падставе была зроблена выснова, што першапачатковыя колькасці ахвяраў у пахаваннях была завышана на некалькі парадкаў.

Знойдзены прадметы асабістага ўжытку ў выглядзе кубкаў, лыжак, гумовага абутку і іншыя рэчы, выраблены ў Германіі, Польшчы, Аўстрыі, Чэхіі. Кожны з бакоў у палітычным супрацьборстве трактуе гэтыя доказы пасвоему: адны – у пацверджанне версіі, што немцы з Еўрапейскіх краін прывозілі людзей у "Курапаты" і там расстрэльвалі, другія – што у пахаваннях знайходзяцца парэшткі жыхароў заходніх абласцей Беларусі, далучаных да рэспублікі ў 1939 г. Пацвердзіць ці абвергнуць гэтыя версіі аб'ектыўнымі доказамі няма магчымасці.

У шэрагу пахаванняў знойдзены нажы, небяспечныя брытвы, дэталі зброі, бутылёк з капсулямі, прыстасаваныя для вырабу боепрыпасаў. Пераканаўчых тлумачэнняў таму, як гэтыя рэчы аказаліся ў пахаваннях, няма. Такая неахайнасць для работы органаў НКУС таго часу не характэрная.

У працэсе расследвання справы ўдалося ідэнтыфікаваць парэшткі толькі трох чалавек. Пры ўскрыцці пахаванняў знойдзены квітанцыі пра адбіранне ў іх грошай пры арышце, датаваныя кастрычнікам 1939 і чэрвенем 1940 гадоў. крымінальных спраў на гэтых асобаў няма. У сувязі з гэтым няма магчымасці высветліць дзе яны жылі, чым займаліся і што ім ставілася ў віну.

Дадатковае расследаванне праводзілася ў рамках крымінальнай справы, узбуджанай у 1988 годзе, матэрыялы якой шырока асвятляліся ў друку. Дастатковых падстаў для паўторнага асвятлення матэрыялаў указанай справы не знайходжу.

**Начальнік аддзела па нагляду
за выкананнем законаў у войсках
і на транспарце
Старшы дарадца юстыцыі
А. В. Доўбыш.**

## У Віцебску – ІІІ-я абласная

14 студзеня ў Віцебску ў памяшканні абласной бібліятэкі прайшла ІІІ абласная канферэнцыя ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". У ёй узялі ўдзел 33 дэлегаты амаль з усіх раёнаў Віцебскай вобласці. З Менска прыбылі Алег Трусаў, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Кручкоў.

Са справаздачамі дакладамі выступілі старшыня Віцебскай Рады ТБМ Іосіф Навумчык і старшыня Рэвізійнай камісіі Янка Тышка. У спрэчках бралі ўдзел Анатоль Дарафееў (ВДУ, першы прарэктар), Леанід Гаравы (Гарадок, дырэктар школы), Людміла Хацкевіч (Полацкі р-н, настаўніца), Міхась Космыкаў (Лёзна), ксёндз а. Аляксандр – прадстаўнік Віцебскай дыяцэзіі, Валянціна Кудлацкая (Верхнядзвінск), Франц Сіўко (Саюз пісьменнікаў), Валянцін Арлоў (Віцебск, старшыня гарадской Рады), Анатоль Канапелька (пісьменнік, выкладчык ВДУ) і інш., а таксама кіраўніцтва Рэспубліканскай Рады ТБМ.

Старшыня Гарадоцкай Рады Леанід Гаравы быў ушанаваны падзячным лістом за руплівую працу па ўсталяванні ў Гарадку мемарыяльнага знака, прысвечанага Канстанціну Вераніцыну і яго неўміручай паэме "Тарас на Парнасе".

Дэлегаты палічылі работу Віцебскай Рады ТБМ здавальняльнай і абралі кіраўніцтва на новы перыяд. Старшынём Рады на трэці тэрмін абраны Іосіф Навумчык, старшынём рэвізійнай камісіі – Янка Тышка. Намеснікамі старшыні Рады сталі Валянцін Арлоў і Вера Кадушка. Абраная Рада з 21 сябра і сакратарыят з 5 сяброў.

Канферэнцыя адбылася ва ўтульнай атмасферы ўзаемаразумення, канструктыўнасці і добразычлівасці за кубачкам гарбаты.

*Людміла Дзіцэвіч.*

**Удзельнікам Віцебскай абласной канферэнцыі ТБМ
Найлепшыя пажаданні плёну ў рабоце, здароўя і шчасця ў новым годзе.**

Мяцеліць над зямлёй зіма,
Імкнецца сцюжа ў нашы дзверы –
Ды сярод нас такіх няма,
Хто б у вясну зусім не верыў.

Не запужаць нас, не зламаць,
Бо мы даўно – не немаўляткі,
Нікому нас не адарваць
Ад нашай мовы – роднай маткі.

Хай нехта з пенаю раве,
Зубамі люта хай ляскоча –
А мова нашая жыве,
Бо так Народ і Неба хоча!

**Раённая Рада ТБМ, г. Верхнедзвінск.**

## 105 гадоў з дня нараджэння В. А. Шашалевіча (1897 – 1941), беларускага драматурга

На першым жа допыце беспадстаўна, як тады вялося, арыштаванага ў якасці нацдэмаўскага "ворага народа" Васіля Антонавіча Шашалевіча невук-следчы ганарыста павучаў. Маўляў, дарэмна вы сваімі ідэйна-шкоднікімі сачыненнямі спрабавалі кінуць цень на нашу савецкую рэчаіснасць; лепшваствыпілі б пяро на выкрыцці фашысцкай пагрозы свету, і нашай краіне ў прыватнасці. Вось як "Сімфонія гневу" у Першым БДТ гэта робіць! Здзіўлены "нацдэм" спачатку анямеў. Бо "Сімфонія…", дзе сапраўды праз напружаны псіхалагічны канфлікт раскрываецца трагізм сумленнай інтэлігенцыі ў атмасферы вострага палітычнага крызісу ў еўрапейскіх краінах у 30-ыя гады, належала пяру… арыштанта. Канешне, у той жа вечар з мінскіх афіш знікла назва гэтага твора і імя яго аўтара. Замоўкла на доўгія гады "Сімфонія…", выкраслены адусюль драматург.

На творчым рахунку Васіля Шашалевіча пяць змястоўных і багатых на арыгінальныя характары герояў п'ес, тры з якіх былі пастаўлены на сцэне. Сваёй "Апраметнай", напісанай у духу народнага падання, драматург ашчасліві Беларускую студыю ў Маскве. Яна (будучы пасля Другі БДТ – Коласаўскі тэатр) заваявала агульную цікавасць грамадскасці, паказаўшы ў траўні 1925 г. прэм'еру як фальклёрна-казачнае відовішча, што ў алегарычнай форме апявае лёс Беларусі, якая імкнецца да свабоднага і незалежнага жыцця. На жаль, таленавітае пяро было гвалтоўна вырвана з рук В. Шашалевіча пасля другога арышту, калі яму споўнілася сорак. Якім бы багатым быў рэпертуар нашай сцэны, калі б яму выпала адмераць столькі гадоў творчасці, колькі падарыў лёс Макаёнку альбо Дударэвічу! А калі – як Крапіве!.. У сорак чатыры гады ён гіне на лесапавале ў сібірскім лагеры.

*Барыс Бур'ян.*





# Гэтую кніжку варта прачытаць кожнаму

Нядаўна свет пабачыла чарговая кніга вядомага беларускага навукоўца і пісьменніка, Прэзідэнта міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адама Мальдзіса "Як жылі нашы продкі ў ХУІІІ стагоддзі".

Упершыню гэта кніга была надрукавана ў 1982 годзе пад назвай "Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры ХУІІІ стагоддзя. Нарысы быту і звычаяў". І вось амаль праз 20 год у дапрацаваным і дапоўненым выглядзе мы зноў трымаем у руках унікальнае выданне, у якім як у люстэрку можна пабачыць наша мінулае.

Доўгі час ў падручніках гісторыі ХУІІІ стагоддзе лічылі страчаным для нашай гісторыі. Спачатку Паўночная вайна, потым шляхецкае бязуладдзе і, нарэшце, тры падзелы Рэчы Паспалітай... Аднак гэты вельмі спрошчаны пагляд на гістарычны працэс, бо гэта быў час, калі паступова закладаліся першыя цагліны буржуазнай беларускай нацыі, якія заявілі пра сябе на ўвесь голас толькі ў пачатку XX стагоддзя.

І вось зараз, у самым пачатку новага XXI стагоддзя, калі на змену савецкай беларускай нацыі прыходзіць нешта іншае і замест былога Вялікага Княства Літоўскага на карце Еўропы ўжо дзесяць год існуе Рэспубліка Беларусь, вельмі карысна ўважліва прачытаць з алоўкам у руцэ капітальную працу Адама Мальдзіса. Каб напісаць яе, аўтар здзейсніў навуковы вычын, прааналізаваўшы больш чым 200 розных пісьмовых крыніц ХУІІІ стагоддзя, напісаных на розных тагачасных славянскіх мовах, акрамя беларускай, бо па-беларуску тады пісаць было нямодна. Старабеларуская сярэднявечная мова, дзяржаўная мова ВКЛ XIII-ХУІІ стст. паступова памірала, адступала з магнацкіх палацаў і шляхецкіх падворкаў у дамы рамеснікаў і сялянскія вясковыя хаты. Новая беларуская мова з'явіцца толькі ў другой палове XIX ст. і канчаткова сфармуецца на пачатку XX ст.

Але менавіта ХУІІІ стагоддзе было тым нябачным нам мастком, што злучыў разам дзве еўрапейскія эпохі, эпоху барока і класіцызму з эпохаю рамантызму, гістарызму і мадэрну. Якраз нядаўна мы адзначылі 110-я ўгодкі народзінаў самага знакамітага беларускага паэта часоў мадэрну Максіма Багдановіча. Каб да канца зразумець таямніцу яго цудоўнага таленту, трэба пераасэнсаваць культурную спадчыну менавіта ХУІІІ ст, якое дало нам постаці Тадэвуша Касцюшкі і Адама Міцкевіча, вялікіх ліцьвінаў нашай айчыннай гісторыі.

Таму мы прапануем чытачам "Нашага слова" невялічкі раздзел з новай кнігі Адама Мальдзіса, прысвечанае веданню беларускай мовы тагачаснымі жыхарамі ВКЛ. Спадзяюся, што прачытаўшы гэты фрагмент цікавай кнігі, Вы захочаце прачытаць яе цалкам. Дзеля гэтага Вам трэба наведаць кнігарню "Акадэмкніга" ў цэнтры Менска. Дарэчы, кніга даволі танная і каштуе крыху болей за 2 тысячы рублёў. Наклад выдання на нашыя часы таксама нямалы – 2 тысячы асобнікаў.

***Алег Трусаў.***

# *Веданне беларускай мовы*

*Але, хоць гэта на першы погляд і дзіўна, "літвіны" і "ліцвякі", як правіла, добра ведалі беларускую мову – і старажытную, кніжную, і гутарковую, на якой размаўлялі сяляне. Ва ўсякім выпадку, у мемуарыстыцы нідзе не ўпамінаецца, каб шляхта не разумела сваіх прыгонных, каб ім у зносінах прыходзілася б карыстацца паслугамі перакладчыкаў...*

*Факты сведчаць, што паланізацыя не цалкам спыніла традыцыі, якія ішлі ад Скарыны і Буднага, статутаў і летапісаў. Кірылічныя кнігі былі не толькі ў праваслаўных і ўніятаў, але і ў каталікаў, і ў пратэстантаў. Шляхце, мяшчанам, асабліва юрыстам часта даводзілася чытаць старыя "рускія" тэксты – юрыдычныя дакументы, прамовы, рэлігійную літаратуру. У Матушэвіча ёсць такія радкі: "Паколькі я быў выкліканы маім братам Вацлавам у брэсцкі гарадскі суд, каб сабраць і даставіць яго дакументы, дык паклікаў на дапамогу Фларыяна Лышчынскага, які пры маім пісарстве быў намеснікам брэсцкага гарадскога рэгента, і яшчэ аднаго, які ўмеў чытаць па-руску" (Матушэвіч, ІІІ,104). У каталіцкай сям'і Герычовай ужываліся набожныя кніжкі, друкаваныя "славянскімі літарамі" (Герачова,44). У сям'і Галамблёўскіх, таксама католікаў, дзяцей вучылі чытаць "па-руску".*

*Побач з польскай, лацінскай, французскай і іншымі мовамі тагачасная шляхта карысталася і гутарковай беларускай мовай. Яе ведалі не толькі ў засценках і дварах, але і ў магнацкіх палацах. Ва ўспамінах Я. Тышкевіча "Наша старонка" гаворыцца, што польскі кароль Станіслаў Аўгуст, прыехаўшы да Радзівілаў у Нясвіж, палічыў патрэбным выступіць з вершаваным тостам, які пачынаўся са слоў:* ***"Пане гаспадару, каж віна даці, што б в твоей хаці ліха не знаці".*** *У час паездкі таго ж караля па Піншчыне ўсюды яго віталі надпісамі на чатырох мовах – польскай, лацінскай, яўрэйскай і "рускай", а ў Дубоі – яшчэ і стылізаваным беларускім вершам, які быў напісаны мясцовым уніяцкім парохам і прадэкламаваны мясцовымі дзяўчатамі.*

*"Беларусчына" часам была своеасаблівым сродкам зносін паміж мясцовымі магнатамі і рускімі саноўнікамі. Ва "Успамінах", выдадзеных у 1856 годзе ў Пецярбургу і Магілёве пад прозвішчам Барталамея Міхалоўскага (за ім хаваўся знаёмы нам ужо Г. Жавускі), расказваецца аб прыбыцці на Віцебшчыну намесніка Пасека (таксама ўжо нам знаёмага). "Беларускія паны" яго вельмі любілі, бо, нібыта, - "у адпаведнасці з манаршай воляй ён цэлым краем так лагодна кіраваў, што не толькі прывязаў да новага ўрада дваран, якія там пражывалі, але нават былі прыклады, што шляхта, якая мела маёнткі ў Польшчы, пераносілася на Беларусь, напрыклад, граф Плятар і князь Ксаверы Любамірскі". І вось, каб аддзячыць за новыя прывілеі, якія ўраўнялі шляхту з рускім дваранствам, мясцовае панства сабралася ў Віцебску на баль. Французскую і рускую мовы яно ведала дрэнны, Пасек жа не гаварыў па-польску. Таму гаворка, якую ён вёў з панамі, была "па спосабу свайму досыць смешная: ён да іх гаварыў па-руску, а паны адказвалі на беларускім дыялекце, да якога былі прызвычаеныя, прабываючы сярод сваіх прыгонных".*

*Мемуарысты сцвярджаюць, што сярэдняя і дробная шляхта ў паўсядзённым быце часта карысталася беларускай мовай. У. С. Шантырам апісаны такі напаўанекдатычны выпадак. На Полаччыне ў канцы ХУІІІ стагоддзя жыў нехта Грабніцкі, дарэчы, прыхільнік французскай мовы. Калі да яго прыбыў пасланец полацкага ваяводы Жабы, каб перадаць выклік на дуэль (адмовіцца ад яе тады лічылася парушэннем гонару), Грабніцкі прыкінуўся глухім і на ўсе словы, звернутыя да яго, у адно адказваў па-беларуску: "Не чую". Пасланец раззлаваўся і пачаў лаяць гаспадара: маўляў, пан Жаба кажа, што "ты нікчэмны, подлы, адным словам, к...". Грабніцкі на гэта спакойна парыраваў: "Скажы Жабе, што к... не вужака, не ўкусіць" (Шантыр,60). Рускі мемуарыст Гаўрыіл Іванавіч Дабрынін, служачы на Магілёўшчыне, сустрэўся з шляхціцам Наркевічам, які расказваў аб закапаных на могілках скарбах. Гэтыя расказы нязменна заканчваліся беларускім заахвочаннем: "Трэба шукаць". Многа беларусізмаў у С. Пільштыновай, М. Матушэвіча, К. Завішы ("прынука", выпіць "на незабудзь"). Характэрна таксама, што І. Ходзька, стылізуючы свае "Успаміны квестара" пад аўтэнтычныя мемуары ХУІІІ стагоддзя, шырока выкарыстоўваў беларускія фразы ("Уставай, на плячах рабіць крыжа не буду"; "Хапай, Рэўт, мяса"; "Стрэльчык вашэі настраляе" і інш.). Усё гэта пацвярджае вывад сучаснага польскага даследчыка Януша Мацяёўскага аб тым, што "да канца ХУІІІ стагоддзя існавалі сярод шляхты Вялікага княства Літоўскага групы, якія карысталіся выключна беларускай мовай, аднак шляхецтва іх ніколі не ставілася пад сумненне".*

*Сярод шляхты былі таксама пашыраны беларускія песні – як літаратурнага паходжання, так і народныя. Іх выконвалі нават у нясвіжскім замку Радзівілаў. Паміж прыдворных "рэзідэнтаў" там славіўся "князь Мірскі, стары, чуллівы кавалер, ён іграў на гітары, спяваючы тэксты і розныя песенькі, якіх умеў без ліку – польскія, жмудскія, беларускія – часцей за ўсё, калі быў крыху падхмелены" (Крашэўскі, І,99). К. Завіша хваліўся: "Меў я добрую мінскую музыку з цымбаламі; добра рэзала яна старасвецкія танцы: "Альбо мене баршчу дайце", таксама: "Чэрнец чэрніцу завёў у пўніцу", таксама: "Анусю, сэрдэнько, паліш мою душу" і г.д." (Завіша, 152).*




# *"Юнаму тэатру быць"*

Улетку школа імя Фр. Скарыны атрымала ліст-запрашэнне на святкаванне ўгодкаў М. К. Агінскага ў Залессе ад навуковага супрацоўніка Сяргея Верамейчыка. Далі згоду. І ў верасні – дырэктар школы сп. Г. Сівалава, настаўніца беларускай мовы сп. Дз. Стахновіч, настаўніца пачатковых класаў В.Іванова, настаўніца музыкі В. Кавальчук, група вучняў пабывалі на свяце ў Залессі, паглядзелі і самі прынялі ўдзел. Вядома, спадабалася, шмат уражанняў, ды і проста прыемна паблукаць па парку ў такую пару года і, хоць думкамі апынуцца ў мінулым. Пазней адбылася сустрэча з дырэктарам Залескай школы сп. З. Грышкевічам, дырэктарам сядзібы Агінскага Уладзімірам Ляхотам і ст. навуковым супрацоўнікам Сяргеем Верамейчыкам. Сп. Ул. Ляхота расказаў вучням пра род Агінскіх, пра сядзібу ў Залессі, свой аповед дапоўніў наглядным матэрыялам, правёў з вучнямі віктарыну "Што мы ведаем пра Агінскага?". Пераможцы атрымалі падарунак – кнігу Л. Трэнет "Там дзе гучаў паланэз". Сяргей Верамейчык выканаў некалькі песень. Адбылася пазнавальная і карысная сустрэча з настаўнікамі і вучнямі нашай школы. Гэта быў пачатак супрацоўніцтва.

Зноў сустрэча. На зімніх канікулах наша школа прымала гасцей з Залесся – дзіцячы тэатр "Альтанка". Гэта падзея! Першае выступленне юных артыстаў адбылося ў Троках у гістарычным нацыянальным парку сядзібы графа Юзафа Тышкевіча. Беларуская батлейка – унікальная з'ява для літоўскага гледача, тут ён быў рознага ўзросту. Уважліва сачылі за дзеямі герояў, спектакль "Цар Ірад" музычны, што дапамагло зразумець сюжэт. Анёлаў малявалі дзеці, а лялькі і незвычайная батлейка – фантазія рэжысёра, мастацкага і музычнага кіраўніка тэатра Сяргея Верамейчыка. Ён аўтар тэкстаў і музыкі для многіх спектакляў тэатра. У Троках выступалі па запрашэнні намесніка дырэктара гістарычнага нацыянальнага парка Альгімантаса Станкявічуса.

Зацікаўленыя і бясконца ўлюбёныя ў сваю справу А.Станкявічус і Ул.Ляхота арганізавалі свята, тэатр "Альтанка" паказваў батлейку – у Літве. Потым – сумесныя гульні ў снежкі, катанне на конях, экскурсія па Троцкаму замку.

На другі дзень спектакль паказвалі ў касцёле Святога Барталамея ў Вільні, тут іх таксама цёпла прымалі, прысутнічалі старшыня ТБК Хв. Нюнька, ТБМ Ю. Гіль, рэдактар "Руні" А. Мінкін, журналіст з "Паланіі" А. Старавойтаў, другой праграмы літоўскага радыё, вучні і настаўнікі школы імя Фр.Скарыны. Традыцыйна кожны год паказвалі батлейку ў касцёле вучні беларускай школы ў Вільні, а ў гэтым годзе – госці з Беларусі. І вольны ад выступленняў час яны вандравалі па вулачках старажытнай Вільні, наведалі беларускія мясціны, звязаныя з імёнамі беларускіх дзеячоў, прайшліся сцежкамі Фр. Скарыны, Фр. Багушэвіча і М. Багдановіча. Іх чакалі ў палацы Агінскага (цяпер дом пісьменнікаў), былі ў музеі Адама Міцкевіча і т.д. Прыехалі з канкрэтнай праграмай, дзе, што пабачыць, куды схадзіць у першую чаргу, усюды рабілі фотаздымкі, здымалі на відыё сваё падарожжа. Маленькія дзеткі, а якая зацікаўленасць, падрыхтоўка, адчуваецца агульная адказнасць. Як важна для іх магчымасць зносін, дыялогу. А ім ужо ёсць што сказаць. У Нацыянальнай галерэі яны адразу пазналі партрэт М. К. Агінскага. Пабывалі ўжо на гастролях (першы састаў "Альтанкі") у Італіі, Польшчы, цяпер у Літве. Упэўнена, у іх ёсць планы на будучыню, і можа знойдзецца ў Беларусі спонсар, а можа і за мяжой, які іх матэрыяльна падтрымае, а талент і жаданне яго ўдасканальваць, працаваць у іх ёсць. Як прыемна канстатаваць, што на падмурак альтанкі Агінскага ступіла нага Мельпамены, а гэта значыць, што ў Залессі выкарыстоўваецца магутны сродак выхавання – тэатр. А той, хто з імі займаецца і натхняе карысны і патрэбны дзецям. Ім можна толькі пазайздросціць, што побач з імі такі living рознабакова таленавіты, апантаны ідзеямі кіраўнік Сяргей Іванавіч Верамейчык.

У іх няма "паказухі". Апошняе выступленне ў беларускай школе ў Вільні, з самага пралогу і песні, з самага пачатку спектакля іх падхапіла і панесла натхненне. На суд нашага юнага гледача паказалі спектакль "Цар Ірад", потым яшчэ сцэнкі з прэм'ерных спектакляў, спевы і на завяршэнне казка. Тут іх прымалі проста на "Ура!" У першым радзе сядзелі першакласнікі, яны так уважліва слухалі і так жыва рэагавалі на ўсе сюжэтныя павароты п'есы. Без асаблівых цяжкасцяў юныя артысты пераўвасабляліся ў розных герояў, здзіўлялі сваёй непасрэднасцю і эмацыянальнасцю. Асабліва выдзяляўся Дзіма Ярмоліч, з такой лёгкасцю і палётам выконваў ролі ў спектаклі, а іх было некалькі, сольныя спевы, а яму толькі 11 гадоў. а ўсяго ўдзельнічала ў п'есе 8 чалавек: Ганна і Каця Тарнацкія, Яна і Паўліна Жыхі, Надзя Клуйша, Насця Сташэўская, Таня Спаская і Дзіма Ярмоліч. Поспехаў Вам. "Альтанка" – унікальная з'ява і для Залесся і для Смаргоні і далей, па-першае гэта дзіцячы тэатр, упэўнена, дакажа сваё права на жыццё, у яго ёсць творчая перспектыва. І будзе недаравальным, калі дарослыя не змогуць зберагчы гэта ўнікальнае ўтварэнне дзіцячай творчасці. Менавіта драматычнае мастацтва здольна больш другіх развіваць грамадскую актыўнасць, выхоўваць пачуццё калектыву, упэўненасць. Не выпадкова такое значэнне яму прыдаваў Макаранка. Ён нават сам іграў у спектаклях сваіх выхаванцаў. Паўнавартаснае выхаванне - гэта перш за ўсё ўзаемазацікаўленасць у зносінах дарослых і дзяцей. У залескіх дзяцей ёсць побач такія дарослыя – гэта перш за ўсё кіраўнік "Альтанкі" Сяргей Верамейчык, дырэктар сядзібы Агінскага Ул. Ляхота, настаўніца беларускай мовы Тамара Казлоўская, Юра Рурак -- артыст тэатра "Жывое слова". Так што – юнаму тэатру "Альтанка" быць!

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня.***

# Піянер нацыянальнага пантэёну партрэтаў Вялікіх Князёў

Вось пра такіх, як Анатоль Дзмітрыевіч Крывенка, трэба часцей пісаць нашым журналістам, - казаў на адкрыцці ў Старых Дарогах прыватнага музея, яго заснавальнік Анатоль Белы.

Тое, што я пачуў, мяне ўразіла. Як не здзівіцца яго ўчынкам. Ён ахвяраваў для музея больш 200 сваіх твораў, а гэта не адзін дзень карпатлівай працы. Партрэты Вялікіх князёў Вялікага Княства Літоўскага ад Рагвалода да Станіслава Панятоўскага, сябры ўраду БНР, дзеячы нацыянальнага вызвольнага руху, сучасныя вучоныя, грамадскія дзеячы – яго экспанаты ў музеі. Мучыць пытанне: адкуль вытокі яго дабрачыннасці. А мо гэта ёсць выкупленне за кольвечы дапушчаныя грахі. І адчуванне высокай адказнасці вымушае чуйную душу так рабіць?

Нарадзіўся Анатоль Крывенка ў 1942 годзе ў тагачасным Сталінградзе. Бацька – Дзмітры, вайсковец, паходжаннем з сялян, з Палтаўшчыны. Маці – Вольга, з Камянец-Падольска, з старажытнага нямецкага роду Нольдэ. Яе продак служыў ад'ютантам у генерала Эдуарда Татлебена, героя Севастопальскай абароны 1854-1855 гадоў. У маладосці маці была смелай жанчынай. Быў выпадак, калі яна абарнаіла аднаго з саслужыўцаў, які абвінавачваўся з знявазе самога Сталіна, загарнуўшы селядца ў газету з яго партрэтам. Амаль як у біблейскай прытчы паступіла знаходлівая жанчына. На пасяджэнні райкаму камсамолу, дзе разглядаўся гэты выпадак, яна прапанавала абыйсці ўсе кватэры членаў камітэту, у тым ліку і самога заяўніка, і калі ў прыбіральнях не знойдзецца шматкоў ад газетаў, то тады будзем судзіць гэтага чалавека. На гэтым канфлікт быў вычарпаны. Як вядома, туалетнай паперы тады не было.

Па абавязку службы бацькі сям'і часта даводзілася мяняць месца жыхарства. У асноўным, гэта Прыбалтыка: Венспілс, Любава, Рыга, Калінінград, Вільня. З першага па трэці клас Анатоль вучыўся ў Калінінградзе, далей – у Вільні. Тут жа здзейсніў сваю мару навучыцца прафесійна маляваць – скончыў мастацкую школу. Тут спаткаў сваю спадарожніцу. Яна, Жана, і ёсць яго муза. Першы партрэт – яе партрэт. Каб дагледзець хворых яе бацькоў, давялося пераехаць да іх у Менск. Прафесійным мастаком тут не стаў, працуе вучэбным майстрам мастацкага друку пры кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

- Не ведаю пад уплывам чаго адзінаццацігадовым хлопчыкам я намаляваў бязногага інваліда на пратэзе, які жабруе, з надпісам "У краіне сацыялізму". Маё перакуленае ўспрыманне гісторыі Беларусі, Летувы фактычна паставілі з галавы на ногі наведванне мерапрыемстваў, што праводзіў Менскі культурна-асветніцкі клуб "Спадчына", сустрэчы там з выбітнымі асобамі краіны: Міколам Ермаловічам, Анатолем Грыцкевічам, Язэпам Юхо, Георгіем Штыхавым, Львом Міраўцкім, Леанідам Лычом, Яўгенам Ціхановічам, Міколам Купавам, Алесем Шатэрнікам і шмат іншымі, - успамінае Анатоль Дзмітрыевіч. У клубе даведаўся Анатоль, што цяперашняя Літва – былая Жмудзь, жамойцы, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ. Літвою ж тады называлася зусім іншая тэрыторыя. Уладарамі былі ўсяго Княства, а не адной толькі тагачаснай Жмудзі, Міндоўг, Вітаўт, Гедымін..., імёны якіх называюць зараз летувісы па-свойму, згодна сваёй моўнай традыцыі.

Ян Матэйка ў свой час стварыў своеасаблівы іканастас, галярэю партрэтаў польскіх каралёў. Ёсць там і нашы агульныя ўладары. Гэта навяло Анатоля на думку стварыць свой беларускі нацыянальны пантэён партрэтаў. Дзеля гэтага прыйшлося пагартаць шмат літаратуры, летапісаў, дзе згадвалася пра таго, ці іншага старажытнага князя. У дапамогу леглі гравюры князёў зробленыя ў 1578 годзе Антоніем Гван'іні, а таксама нарысы пра гістарычных дзеячоў "Імя ў летапісу" Вітаўта Чаропкі. Прымаліся пад увагу антрапалагічныя рысы знакамітых асобаў. Канешне, шэраг партрэтаў можа выклікаць спрэчкі. У адных – сумнеў падабенства, у другіх – мастацкі густ, у трэціх – прынцыпы партрэтнага жанру. Спрачацца мастак не збіраецца. Ён да партрэта старажытнай асобы адносіцца, як да чалавека, не ідэалізуючы героя. Яго галоўная мэта ў гэтым выпадку была не распрацоўка псіхалагічнага вобразу, вызначэння характару. Партрэт, як наглядны дапаможнік вызначанага прозвішча і тэксту, свайго роду картка да пашпарту гісторыі.

- Я не пераняў дарогу іншым у стварэнні вобразу сродкамі выяўленчага мастацтва таго ці іншага дзеяча, застаецца шырокі дыяпазон творчасці кожнаму, хто пажадае ўзяцца за такі жанр. Пры тым кожны можа ўяўляць і перадаць пэндзлем вобраз гістарычнай асобы па-свойму адпаведна часу. Шкада, тэма гістарычнага партрэтнага жанру пакуль не знаходзіць працягу, - гаворыць Анатоль Крывенка.

Добрачыннасць Анатоля мяне здзівіла яшчэ больш, калі даведаўся, што яго штомесячны заробак складае каля 90 тысяч беларублёў. З такімі грашыма не пашыкуеш. Ён мастак па прызванню душы.

Калі я зазірнуў да яго на працу, уразіла асяроддзе сваёй рускамоўнасцю. Вось табе і нацыянальная акадэмія! Пачуўшы гутарку па-беларуску, завязалася спрэчка на тэму выяўленчага мастацтва. Адна з выпускніц гэтай акадэміі казала, што яно пазанацыянальнае, само па сабе касмапалітычнае, бо як можна вызначыць у тым ці іншым творы беларускасць. Можна б было і пагадзіцца з ёй, калі б размова ішла аб метадах пісьма фарбамі, прыёмах працы мастака, але ж размова вялася аб тым, што адлюстроўвае мастак, творчы свой вобраз, аб яго ўяўленнях прынцыпаў вызначэння нацыянальнай прыналежнасці. А яны напрост залежаць ад багацця ўспрыманне творцам навакольнага асяроддзя, багажу ведаў той ці іншай культуры.



**Анатоль Крывенка**

Можна пісаць партрэты рускіх цароў, альбо партрэты Вялікіх Князёў старажытнай Беларусі. Галоўнае, не як тварыць, а што і да каго творыць мастак. Зробленая Крывенкам галярэя партрэтаў, ёсць важкі ўнёсак у нашу нацыянальную культуру.

Я пацікавіўся ці шмат у Анатоля праблемаў і якія. Высветлілася, іх шмат. Адну з галоўных ён назваў: давядзенне ўласнага твору да гледача. Сапраўды для каго творыць творца, як не для яго – гледача. А дзе тыя месцы, куды б прынёс свой твор мастак, любы вольны мастак: А іх жа шмат: вакзалы, навучальныя ўстановы, бібліятэкі, тэатры, вітрыны асобных гандлёвых будынкаў... Але ж, паспрабуй выстаўся там. І ён успамінае з якой цяжкасцю рабілася клубам "Спадчына", самім яго старшынём Анатолем Белым выставы ў Оперным тэатры, у БДУ, у Траецкім прадмесці, а, напрыклад, у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры дык увогуле адмовілі. Анатоль спадзяецца, што вернецца той час, калі да мастакоў пойдуць заказы ад музеяў, розных установ на партрэты гістарычных, сучасных дзеячоў, навукоўцаў, уплывовых грамадскіх дзеячоў, знакамітых літаратараў і паэтаў ды саміх мастакоў. Да свайго 60-годдзя якое адбудзецца 30 траўня ён мяркуе закончыць партрэт – карціну Канстанціна Астрожскага. Падумалася, от бы гэты твор ды набыло наша Суворауская ваенная вучылішча. А пакуль піянер нацыянальнага пантэёну гістарычных партрэтаў цешыць сябе спадзяваннямі на лепшыя часы.

*Мікола Лавіцкі.*

**Аляксанд Талерчык**

# ПАРЭЦКІ СВЯТАР ХВЕДАР ДАНІЛЮК

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Павел Сцяпанавіч Крынчык, выбранне дэпутатам якога падтрымлівалі Данілюк і парэцкія сяляне, быў мясцовым жыхаром. Нарадзіўся 17 верасня 1898 года ў вёсцы Едначы (12 км ад Парэчча) Слонімскага павету. У бежанстве ў 1921 годзе скончыў Екацярынаслаўскі політэхнікум шляхоў зносін і вярнуўся на Бацькаўшчыну. У 1927 г. яго абралі віца-старшынём Слонімскай акруговай управы Таварыства беларускай школы. У 1926-1927 гг. гэтае таварыства сабрала 1106 заяў грамадзян павету з патрабаваннем адкрыцця 65 беларускіх школ. Праўда, польскі ўрад адкрыў толькі 3 дзяржаўныя і 1 прыватную беларускія школы і 3 беларускія бібліятэкі – у Чамярах і Кракотцы і Востраве.

У 1929 г. Крынчыка абралі сябрам галоўнае ўправы ТБШ. У тым жа годзе ён прымае ўдзел у Еўрапейскім сялянскім кангрэсе ў Берліне. У 1930 годзе быў арыштаваны польскімі ўладамі і прыгавораны за сваю дзейнасць да 10 гадоў турмы. У 1932 годзе ў выніку абмену палітычных зняволеных яго перадалі ў СССР. Але 26 лістапада 1935 года быў арыштаваны ўжо бальшавікамі і адпраўлены ў Магадан. У 1942 г. закончыўся тэрмін катаргі, але з Магадана не выпусцілі. Толькі ў 1946 годзе сустрэўся з 11-гадоваю дачкою Аленаю, якая пасля арышту бацькі жыла спачатку ў дзіцячым доме, а потым у сваякоў. У апошнія гады Павел Крынчык жыў у Слоніме, дзе і памёр 22 верасня 1975 г.

Жыццё праваслаўнай царквы Заходняй Беларусі ва ўмовах польскага панавання не было спакойным. Польскія ўлады безцырымонна ўмешваліся ва ўнутраныя справы, асабліва, калі бачылі ў яе дзейнасці перашкоду апалячванню беларусаў. Па загаду наваградскага ваяводы ў 1935 годзе Хведар Данілюк, за правядзенне антыпольскай агітацыі, быў звольнены з пасады парэцкага святара і пераведзены спачатку ў Крывошын, а пазней у Заблудава. У 1936 годзе асуджаны на 6 месяцаў турмы за "абразу народа польскага", але быў апраўданы апеляцыйным судом. Восенню 1939 года, з прыходам у Заходнюю Беларусь бальшавікоў, ён быў з сям'ёй арыштаваны і кінуты ў сумнавядомую турму ў Картуз-Бярозе. Толькі дзякуючы паказанням сумленных сведкаў і заступніцтву зняволеных ім ўдалося вырвацца з яе. Пасля вызвалення ён пераязджае ў вёску Глоўсевічы, побач з родным сялом, і да 1942 года абслугоўвае прыход з дзвюх цэркваў. За самаахвярнасць і дабрачыннасць для простых людзей айцец Хведар здабыў сабе ў ваколіцах Слонімшчыны вялікую павагу і аўтары-тэт. Ведаючы як аднаго са слуцкіх паўстанцаў, як бацьку актывіста Саюза беларускай моладзі, яго хацелі забіць партызаны. Ратуючы сваю сям'ю ад смерці, у 1942 годзе ён пераехаў у мястэчка Дзярэчын, дзе служыў другім святаром да лета 1944 г.

З 28 жніўня па 2 верасня 1942 года, як дэлегат ад Наваградскай епархіі, айцец Хведар Данілюк прымаў актыўны ўдзел у Менскім праваслаўным саборы, на якім была ўрачыста абвешчана Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Вернасць ідэі беларускай аўтакефаліі ён захаваў да канца жыцця.

З лета 1944 года Хведар Данілюк знаходзіцца ў эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, а пасля ў ЗША. У 1948 годзе прымаў удзел у аднаўленні Беларускай Аўтакефальнай Царквы ў эміграцыі. За вернасць ідэям і за вялікія заслугі перад БАПЦ ён атрымаў мітру і сан пратаярэя. У 1950 годзе разам з сям'ёю пераязжае на сталае жыхарства ў Нью-Ёрк. Нягледзячы на сталы ўзрост, ён і далей прпацягвае актыўна ўдзельнічаць у грамадскім і рэлігійным жыцці беларускага замежжа. Разам з аднадумцамі арганізоўвае Беларускі парафіяльны камітэт у Брукліне, збірае грошы на пабудову ў Нью-Ёрку беларускай праваслаўнай царквы Святога Кірылы Тураўскага, адкрыццё якой адбылося 3 лістапада 1957 г. Першым настаяцелем парафіі гэтай царквы, якая была ўзведзена ў ранг кафедральнага сабора, дзякуючы свайму вялікаму аўтарытэту сярод вернікаў, стаў менавіта айцец Хведар Данілюк. Царква св. Кірылы Тураўскага зрабілася цэнтрам беларускага грамадскага жыцця. Тут ладзіліся разнастайныя культурныя імпрэзы, сходы, канферэнцыі. Пры прыходзе дзейнічала добрая беларуская нядзельная школка. На епархіяльным з'ездзе БАПЦ Амерыкі і Канады ў 1960 годзе айцец Хведар быў абраны ў Епархіяльную ўправу. Нягледзячы на тое, што яму пайшоў восьмы дзесятак гадоў, айцец Данілюк заўсёды выглядаў бадзёрым і энергічным, падчас набажэнства прыгожа і ўзнёсла гучаў яго святарскі голас. Памёр Хведар Данілюк 29 ліпеня 1960 года. "Свой турботны, неспакойны шлях з шматлікімім, пераважна горкімі, прыгодамі і нягодамі закончыў у супакаенні, без хваробы і фізічных цярпенняў, пад нагляддам сваёй жонкі-матушкі Марыі і сям'і сына Барыса", - пісаў у некралогу яго бліжэйшы сябра, родны брат Якуба Коласа – Міхась Міцкевіч. Матушка Марыя – гэта старэйшая родная сястра вядомай беларускай дысідэнткі Надзеі Дземідовіч, якая цяпер жыве ў Менску.

Пахаваны ваяр і святар Хведар Данілюк на беларускіх могілках у Нью-Брансвіку, далёка ад роднай Сурынкі і Парэчча, дзе доўгі час самаахвярна служыў беларускаму люду.





Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Сейлавіцкія ***студні*** дзеляцца на два тыпы: грамадскія і асабістыя. Грамадскія вельмі старажытныя і размешчаны на вуліцы. Асабістыя з'явіліся ў 70-я - 80-я гады і размешчаны ў дварах.



**Сейлавіцкая студня.** *Здымак 25.12.2001 г.*

У пачатку 60-х гадоў пасля ссялення з хутароў узнікла патрэба давядзення да ладу грамадскіх студняў у першую чаргу. Работы выконваліся талакой. У некаторых студнях былі яшчэ ***драўляныя зрубы***, то ўсё гэта вымалася, выкідвалася і апускаліся ***трубы*** *(у іншых месцах Беларусі трубы называюць колцамі, бетонамі і г. д.)*. Трубы ***білі*** (рабілі) у саміх Сейлавічах, як правіла каля той хаты, дзе павінна была быць студня. Дзеяслоў ***білі*** заняў тут месца дзеяслова ***рабілі***, мабыць па аналогіі працэсу вытворчасці трубаў з працэсам вытворчасці валёнкаў, якія таксама ***б'юць***. За год-другі ўся вёска студні абнавіла. І толькі праз гадоў 15-20 пачалі капаць студні на панадворках. З усіх студняў толькі некалькі ў нізінах мелі жураўлёў. Астатнія былі абсталяваны ***корбамі***.

Вялікай бядой было, калі ў грамадскую студню падаў кот. Тады выбіралі ўсю ваду, лез чалавек, чысціў дно, выскрабаў плесень. Іншай дэзынфекцыі не рабілі.

Праблемай было, калі тапілі вядро. Тады бралі спецыяльны крук, які называецца ***"воўк"*** і гэтым ваўком той хто ўтапіў ***"бразгаўся"*** пакуль не выцягне. Вёдры звычайна былі акованыя, з кавальскай ***восілкай***, бо з фабрычнай тапілі б цераз дзень. Калі што здаралася з асабістай студняй, то гэта нікога акрамя гаспадара не хвалявала, бо ў запасе заўсёды ёсць студня грамадская. Як правіла, у грамадскіх студнях вада значна лепшая і смачнейшая, чым у асабістых, якія капаюцца не там *"дзе жыла"*, а, *"каб ад ганка недалёка"*. Таму і смяецца вёска, калі ў каго ў студні вады няма, а ў склепе поўна, а адлегласці паміж імі тры метры, ці наадварот вясной пойдзе верхаводка, поўная студня, хоць кубкам чэрпай. У грамадскіх студнях такога не бывае. Пры Польшчы, здаралася, маглі напаіць з адной студні эскадрон коней і вада не выбіралася.

50-я і пачатак 60-х гадоў – эпоха пабытавай рэвалюцыі ў Сейлавічах, ды і, фактычна, і ўва ўсёй беларускай вёсцы.

У канцы 40-х – пачатку 50-х у большасці сейлавіцкіх хатаў не было ні адной адзінкі фабрычнай мэблі. Уся мэбля была самаробная, ці зробленая вясковымі майстрамі. Сталы, табурэцікі, ложкі былі саморобныя.

Асобным элементам мэблі былі ***лавы***, якія стаялі ў кожнай хаце ўздоўж сцянаў па некалькі штук. Лавы шляхта часцяком называла словам ***"канапа"***.

Сейлавіцкія дзяўчаты пачатку стагоддзя ішлі замуж з ***куфрамі***. Дзяўчаты 50-х гадоў ішлі замуж з ***шафамі***, але і куфры і шафы рабіліся не далей Нясвіжа ці Гавязны, а то і ў саміх Сейлавічах. Пры гэтым трэба адзначыць не столькі мастацкую вартасць і куфроў і шафаў, як іх якасць у плане даўгавечнасці. Яны не расшэйдваліся, не рассыхаліся, у многіх стаяць да сёння, калі ўжо не ў хаце, то ў сенцах ці каморы.

Ніякіх матрацаў не было, на ложках ляжалі ***сяннікі***. Сяннік гэта вялізарны мяшок на шырыню ўсяго ложка. Паводле назвы сяннік павінен быў напіхвацца сенам. Так у прынцыпе і рабілі. Травінкі пралазілі праз тканіну мяшка, калоліся, але што ж ты зробіш. Сена, праўда, ўлежвалася. Сяннік трэба было пeратрэсваць. Часта сяннікі напіхвалі гарахавіннем. Гарахавінне не так улежвалася, але было цвярдзейшае і вельмі шапацела.

Разам з тым у Сейлавічах не вымаўлялі ***"сяннік"***, а гаварылі ***"сяднік"***. Словы вельмі блізкія па гучанні і па сутнасці. Сяднік – гэта той жа мех з сенам, які клалі на воз і на якім сядзелі. А пакольні ***"сяднік"*** вымаўляецца лягчэй, то гэтае слова і выціснула ***"сяннік"***.

Першы фабрычны элемент мэблі, які прыйшоў у вёску гэта жалезны ложак з матрацам на спружынах. Ложкі глядзеліся вельмі прыгожа з храмаванымі спінкамі і рознымі цацкамі.

За ложкамі паціху ў хатах пачалі з'яўляцца пакупныя сталы; круглыя, раскладныя. Пачалі купляць шафкі пад посуд, потым буфеты, крэслы, шафы. Старая самаробная мэбля паціху выцяснялася з хатаў. І славутыя лавы доўга сталі каля хатаў, замяняючы прызбы, пакуль не пагнілі і не былі пасечаны на дровы.

Але першым цывілізацыйным элементам, які прабіўся ў сейлавіцкую хату, была, безумоўна лямпа. Старыя сейлаўцы, што памёрлі ў 70-х гадах памяталі яшчэ лучыну, памяталі ***"дзеда"*** – калодку ці падстаўку, у якую лучыны ўстаўляліся. Але ўжо пры Польшчы, а мо ў каго і раней з'явіліся лямпы. У мову прыйшлі словы ***"кнот"***, ***"газа"***, ***"магазын"***. Неўзабаве адзін з сейлаўцаў ужо меў мянушку "Магазынік". Магазынам называлася частка лямпы, куды залівалася газа.

Лямпы былі розныя. Паводле размяшчэння: якія вешалі і якія ставілі. Найбольш распаўсюджаныя былі лямпы, якія вешалі пад бэльку пасярод хаты. Вешалі на вышыню, каб не чаплялі галавой. Вешалі на дрот. Калі трэба было нешта рабіць вечарам унізе, то быў дадатковы дрот, на якім лямпу апускалі ніжэй.

Лямпы дзяліліся і па нумарах. Ад нумара залежаў памер шкла. Фактычна нумар абазначаў колькасць люменаў святла, але слова ***люмен*** было не зразумела і казалі ***лінія***. Трохлінейная ці пяцілінейная лямпа.

Лямпа, як правіла, на гаспадарцы была адна. Таму на нейкі банкет пазычалі адны ў адных. У вайну ўжываліся газоўкі, за якія часта служылі тыя ж лямпы без шкла, бо шкло лопалася, білася, а купіць не было дзе.

Пасля вайны з'явіліся ліхтары. Так званыя "кажаны", але яны ўжываліся толькі, каб хадзіць у хлеў, калі гэта крайне трэба. Пазней, калі ў хлявы праправодзілі электрычнасць гэтыя ліхтары паціху ржавелі ў каморах ды падпаветках. Але напэўна каму-небудзь служаць і да гэтага часу.

### Ровар

Другі па важнасці цывілізацыйны элемент пасля лямпы, які з'явіўся ў Сейлавічах, быў, безумоўна, ровар. Першыя ровары з'явіліся пры Польшчы, і гэта наклала адбітак на ўсю лінгвістычную сістэму, якая была прыцягнута для абслугоўвання гэтага цывілізацыйнага элементу. Лінгвістычная сістэма сфармавалася ў выніку ўнікальнага ўзаемадзеяння некалькіх моваў.

Само слова ***"ровар"*** прыйшло разам з прадметам адначасова ў польскую і беларускую мовы з Англіі, дзе ***rower*** абазначае *валацуга, вандроўнік*, але не само гэта слова засвоілі беларусы і палякі, а назву фірмы **"Rower"**, якая выпускала ровары і масава пастаўляла іх у Другую Рэч Паспалітую. Так сама, як і ад назвы фірмы **"Жылет"** лязо для бяспечнай брытвы называецца ў Сейлавічах ***"жалетка"***.

Назвы асноўных дэталяў ровара фармаваліся з ужо наяўных лігвістычных элементаў і пазычаліся ў іншых мовах.

***Кола.*** Гэтая дэталь ровара мае аналаг у возе. Таму ніхто іншай назвы не шукаў.

Кола ў ровары, як і ў возе мае ***вобад*** і ***спіцы***. Калі спіцу ад ровара прыстасоўваюць для работы рукамі (вязання), то яна пачынае называцца ***прутком***. Кола ў ровары мае і мяккую частку, якой не было ў возе. Гэтая мяккая частка складаецца з некалькіх дэталяў. Вонкавая, якую афіцыйна называюць ***"пакрышкай"***, у Селавічах называецца ***"апонай"***, г. зн. тое, што ***апінае*** кола. Унутраная, якую афіцыйна называюць ***"камерай"***, у Сейлавічах называецца ***"кіхай"***. Такога слова няма ў слоўніках. Але давайце глянем, адкуль яно ўзялося. У шэрагу беларускіх назоўнікаў пры ўтварэнні памяншальных формаў адбываецца пераход зычных ***х*** ***у*** ***ш*** і ***г*** ***у*** ***ж***. Да прыкладу: *страха - стрэшка, кніга-кніжка*. Ёсць у беларускай мове слова ***"кішка"***. Паводле структуры гэта памяншальная форма, якая абазначае малую кішку, а дзе ж поўная, якая павінна абазначаць кішку вялікую, такую, як камера ў ровары. Калі ласка, поўная форма, якая па аналогіі *"стрэшка-страха"* павінна гучаць як ***"кіха"*** *("кішка-кіха")*, і ўжываецца ў Сейлавічах для назвы камеры. Такім чынам запоўнілася няпоўная пара назоўнікаў. Магчыма гэта вузка дыялектная назва, але вельмі карысная і патрэбная ў беларускай мове.

Дэталь праз якую надзімаюць кола называецца ***вэнталь*** або ***ніпель***. Абодва гэтыя словы запазычаныя.

Надзімаюць колы пры дапамозе ***помпы***. Таму і кажуць: ***напампаваць колы.***

Над колам знаходзіцца паўсагнутая металічная паласа, якая мае прызначэнне ахоўваць ездака ад гразі, што ляціць з-пад кола. Гэтая паласа, аналаг крыла ў аўтамабілі, у Сейлавічах, як у ровары, так і ў матацыкле, мае назву ***"блотнік"*** ад польскага слова *"блота"* (гразь).

Дэталь, за якую яздок трымаецца і якой кіруе, называецца ***кіраўніцай.***

Дэталь, на якой яздок сядзіць называецца ***сядлом***.

Ззаду знаходзіцца ***багажнік***. Гэтае слова запазычана ўжо, мабыць, з расейскай.

Прыводзіцца ровар у рух з дапамогай ***педаляў***. *Педаль*, як і *медаль*, і *шынель*, мужчынскага роду. Сяды-тады слова вымаўляецца цвёрда: ***педал***.

Намаганне ад педаляў прыкладваецца да ***вялікай зорачкі*** і перадаецца на ***малую зорачку*** праз ***ланцуг***. Слова ***ланцуг*** мае нямецкае паходжанне і патлумачана ва ўсіх слоўніках.

Слова ***рама*** мае шырокае і вузкае значэнне. У шырокім значэнні гэта ўвесь каркас ровара. У вузкім значэнні гэта толькі верхняя перакладзіна каркаса.

Я палічыў патрэбным прывесці, хаця б часткова і павярхоўна гэтую лексіку таму, што яна вельмі нагляднa дэманструе сутыкненне мовы з цывілізацыйнай з'явай. Гэта той выпадак, калі мова разбіралася з новай з'явай сама. Ніхто гэтую лексічную сістэму не рэгуляваў. І ў выніку вось што атрымалася.

Калі б паспрабаваць падаць назвы больш дробных дэталяў, такіх, як воська, падшыпнік, конус, вянок, званок і г. д. то тут, мабыць атрымаецца яшчэ большая мешаніна сучасных і старых назваў. Як мне падаецца ровар ужо заслугоўвае таго каб стаць аб'ектам спецыяльнага даследвання лінгвістаў. Не ўсё ж лапці вывучаць.

Пасля ўтварэння калгасаў ровар набыў у жыцці сейлаўцаў выключнае значэнне. Коней адабралі. На працу трэба было хадзіць далёка. За гадзіну абеду жанчынам трэба было перакусіць, падаць карову, даць есці свіням і шмат чаго яшчэ. Без транспарту было ніяк. Ровар вельмі ўдала ўпісаўся ў сельскае жыццё. На ім прылаўчыліся везці і мяшок мукі, і газавы балон, і дзіця. На раварах ездзілі ў ягады, грыбы, у Нясвіж на кірмаш і г. д.

У кожнай сям'і было 2-3 ровары. Равароў у Сейлавічах не кралі. Замкоў для равароў не ўжывалі. Ровар мог тры дні стаяць каля крамы ці на канюшні, і ніхто не чапаў. Зараз, мабыць, не пастаіць.

Да ровара адносіліся з любоўю, "даглядалі" (абслугоўвалі), упрыгожвалі, навешвалі розныя дадатковыя прыстасаванні. Акрамя абавязковага званка вешалі дынама і фару, каб ноччу было святло, вешалі ручны тормаз на пярэдняе кола, вешалі ахоўны шчыток, "каб калошу ў ланцуг не ўкруціць". Калі шчытка не было, то калошу трэбала або закасваць, як рабілі дзеці, або, як дарослыя, сур'ёзныя дзядзькі, прышчэпваць звычайнай прышчэпкай для бялізны.

Вешалі нават лічыльнік (спідометр). Сённяшняя моладзь, мабыць, ужо і не ўяўляе, як можа выглядаць смідометр для ровара, а яны былі і скарыстоўваліся, хаця, што праўда, не вельмі шырока. Большасць сейлаўцаў абыходзілася мінімальным начыннем. Яшчэ пры Польшчы з'явіліся ***матароўкі*** (ровар з маторчыкам). У Сейлавічах іх было адна ці дзве (ужо савецкіх).

Пазней з'явіліся мапеды і матацыклы, але гэта некалькі іншы час. Хаця, калі па-праўдзе, то матацыкал сейлаўцы ведалі ад вайны. І некалькі нямецкіх "Цындапаў" было ў вёсцы, як і швейных машынак "Зінгер".

*(Працяг у наст. нумары.)*

Уладзімір Содаль

# АПАВЯДАННІ ПРА СЕРЖЫКА

### СЛОЎКА ПРА СЕРЖЫКА

Нарадзіўся хлопчык пятага лютага 1991 года, роўна праз сто гадоў пасля выхаду Багушэвічавай "Дудкі Беларускай". Рана, з чатырох гадоў пачаў чытаць. Чытае ўсё, што пад руку трапляе: казкі дык казкі, энцыклапедыі дык энцыклапедыі... Філалагічна здольны, уніклівы ў словы. Вельмі назіральны. Любіць сваю зямельку Беларусь. Гатовы, як вырасце, для росквіту Беларусі зрабіць усё, што толькі зможа, што будзе залежаць ад яго інтэлекту. Вучыцца пакуль амаль на выдатна. З кнігай нідзе не расстаецца. Нават на дыскатэку іх бярэ. Як толькі што яму не цікава – адразу ж за кнігу. Нават абедае таксама з чытвом, хаця і ведае, што гэтага нельга рабіць. Ужо трэці год шчыруе з любой яму "Раніцай", друкуе ў ёй сваё адчуванне свету. Але не ўсё яшчэ падуладна Сержыкаву пяру. Таму часта надараецца так: Сержык падае думку, імпульс, а я ўжо, акрылены гэтым, апрацоўваю яе ў рэчышчы Сержыкавых разваг, яго мовы. Гэтак і пішуцца Сержыкавы апавяданні ці апавяданні пра Сержыка.

### ГЕННАЕ "Ў"

Калі Сержык быў яшчэ зусім малы, ён скрозь казаў "сажаўка", "запаўка", "баўкон", "поў/пол". Гэта было дзіва! Нарадзіўся хлопчык ў горадзе. Ні ад каго і нідзе не чуў такой мовы. А вось тым не менш такога было яго маўленне. Адкуль гэта? Няўжо гены? Вядома ж, на Беларусі шмат якім гаворкам уласціва менавіта такое маўленне. Але ж Сержык іх ніколі не чуў, нават да заразшняй пары. То адкуль?

Прыгадалася... Ян Чачот калісь пісаў, што беларусы-крывічы вельмі не любяць гукаў "л" і "в" і пры пэўных пазіцыях скрозь іх замяняюць на "ў": аўтар /алтар/, каўтун /калтун/, каўнер /калнер/. І вось гэтая несвядомая нелюбоў беларусаў да гука "л" прабілася напрыканцы дваццатага стагоддзя праз майго Сержыка! Прабілася ў ізаляцыі ад жывой моўнай стыхіі. То хіба не дзіва гэта!

### Я ТУТ ЧУЮ МЯККІ ЗНАК!

З гэтым Сержыкам проста бяда! Не ведаем, што і рабіць! Усё ён умее, усё разумее, усё адчувае. Сядзе што-колькех пісаць і як толькі яму трапяцца словы кшталтам: ***смех, снег, свіст, насенне, пясняр, след, цвік, цвіль, снеданне, спеў, песня, сліва, смецце, свята***, - і яшчэ не адна добрая сотня такога кшталту слоў – ён перапыняе сваё пісьмо і пачынае бедаваць: "І што мне рабіць? Я тут чую мяккі знак! Пісаць мне яго ці не?

- А як вас у школе вучаць?

- Кажуць, не пісаць! Але ж я тут чую мяккі знак! То пісаць мне яго ці не?"

Я, яго радца, у тупіку. Паводле школьнай граматыкі, то не трэба пісаць. Але хлопчык чуе мяккі знак! Дык што мне: заглушыць гэтае ягонае чуццё? Адно, на што я здатны, гэта сказаць: чуй, Сержык, чуй гэты свой мяккі знак, заўсёды чуй! Не траць гэтага чуцця ніколі! Ты правільна чуеш! Але пішы пакуль, як у школе вучаць! Можа калі-небудзь, як вырасцеш, растлумачыш граматыстам, што мяккі знак, які ты чуеш, - не выдумка чыя-небудзь, а з'ява для нас прыродная, натуральная.

### ЗАРАЗШНІ

Не шукайце гэтага слова ў нашых слоўніках! Яго там няма, і, мусіць, ніколі не было. То адкуль жа тады яно ўзялося?

Сядзеў неяк мой Сержык і маляваў самалёты: прыгожыя, імклівыя, з упартымі кароткімі крыламі. Такіх яшчэ і на белым свеце няма. Малюе Сержык і назвы ім дае. Гэты будзе Бельштурлім. А гэты – Белгурбат...

Затым і кажа:

- Мае самалёты будуць лепшыя, як заразшнія!

Сказаў і далей сабе малюе.

А я яму на гэта:

Сержык, як ты сказаў?

- Я сказаў, што мае самалёты будуць лепшыя, як заразшнія, за зарашнія!

- Але ж, Сержык, такога ж слова – ***заразшні*** – у нашай мове няма!

- А я, дзядулька, і не ведаў, што такога слова няма. Мне так само сказалася.

- Як я разумею, слова ***"заразшні"***, - разважаю я, - гэта тое ж самае, што і ***"цяперашні"***, ягоны сінонім.

- Ну так, - пагаджаецца Сержык.

Слова ***"заразшні"*** не першае, якое пусціў у свет Сержык. Год ці болей таму з ягоных вуснаў сышло і яшчэ адно прыгожае і гэтак нам патрэбнае слова ***"шпарнікі"***. Шпарнікі – гэта тыя, хто працуе хутка-хутка, шпарка – шпарка. А вось яшчэ і слова ***"заразшні"*** маем. Дагэтуль слова ***"зараз"*** ў нашай мове было адно адзінокае. А зараз яно будзе ў пары: ***зараз – заразшні***. А ўдваіх ім будзе весялей. І ўсё гэта з Сержыкавай ласкі. З ласкі хлопчыка, чуйнага да мовы, да слова.

### ПРАЕКТЫ

Прыйшоў неяк Сержык з школы і кажа:

- А нам сёння пра правілы пераносаў расказвалі...

- Ну, і што ты запомніў? Што тут табе цікавага?

- Цікавае ўсё. Але найбольш цікава тое, што згукі ***"дж"*** і ***"дз"*** не пераносяца. Але некаторыя забываюцца пра гэта і пры пераносе разрываюць іх. Пераносяць: ***урад-жай, рад-зіма***. А гэтага рабіць нельга! ***Дзь***, - гэтак жа, як і ***дж***, - гэта адзін гук...

Я пахваліў Сержыка, што ён добра запомніў гэтае правіла і расказаў, што беларускія вучоныя, каб людзі менш памыляліся з пераносам гэтых ***дзь*** і ***дж***, спрабавалі для кожнага згаданага з гукаў стварыць асобныя літары. Я паказаў Сержыку ўзоры гэтых літараў. Сержык зацікавіўся імі. Доўга разглядаў. Нарэшце сказаў:

- А ведаеш, дзядулька, я хачу таксама намаляваць свае праекты згаданых літар...

Цікава, кажу я, намалюй!

Сержык тут жа сеў і досыць хутка і спрытна вымаляваў тыя літары. Цікавыя атрымаліся літары, даволі простыя, з захаваннем пераемнасці, а таму зразумелыя і не цяжкія для запамінання. Ну, а што вы скажаце пра Сержыкаў клопат? Ці не захацелася вам разам з Сержыкам вымаляваць новыя літары замест двайных ***дзь*** і ***дж***, каб больш ніхто не памыляўся, каб не раздзяляў іх пры пераносе?

### ЭКЗАМЕН

Сержык любіць гумар. З цікавасцю чытае, што людзі пішуць, слухае, як людзі жартуюць, гамоняць. А надарыцца і сам вылучыць з гэтай гаманы смяшынку. Вылушчыць і тут жа яе на паперу. От і не гэтак даўно цэлы сшытак смяшынак прынёс хлопчык "Вожыку". Глядзелі іх, чыталі самыя масціты вожыкаўцы – сам галоўны рэдактар Міхась Пазьнякоў і ягоны паплечнік – славуты наш паэта-песеннік Алесь Бадак. Чыталі і хвалілі хлопчыка, захапляліся ягонымі пісьмом, жывым незвычайна натуральным для гарадскога хлапчаняці. Але самае цікавае: пакуль вожыкаўцы чыталі Сержыкавы смяшынкі, размаўлялі. Сержык тут жа, пры іх, без усялякай прынукі ці просьбы, ці нават падказкі сеў і напісаў ні то смяшынку, ні то моўны дослед. І пакуль пісаў – ні разу не папытаўся хоць якое слоўца яму напісаць ці як яго напісаць, які яму знак паставіць. Усё, усё сам на сваё месца паставіў: і косачкі, і працяжнікі. Адным словам, экзамен на аўтарства Сержык вожыкаўцам здаў бездакорна. А напісаў у кабінеце галоўнага рэдактара Сержык размову Мухі з Сляпнём, чаму таго Сляпнём завуць. Гэта яшчэ адна хлопчыкава спроба пранікнуць у сэнс слова, ягоную этымалогію. Падаю гэты яго доследу так, як ён напісаў пры такіх масцітых сведках, як Міхась Пазьнякоў, Алесь Бадак. Паўтаруся, ніхто з нас траіх і рукі не прыклаў: усё тут Сержыкава і коскі, і кропкі, працяжнікі і злучкі, двухкроп'е і пытальнікі...А ў яго ж пакуль усяго два класы адукацыі.

### "СЛЯПЫ" СЛЯПЕНЬ

*Муха пытаецца ў сляпня:*

*- Сляпень, а сляпень, ты ведаеш, чаму цябе так называюць?*

*- Не, не ведаю. А ты ведаеш?*

*- Так, я ведаю.*

*- Ну дык скажы, калі ласка.*

*- Ну добра, сляпень, скажу я табе. Цябе так называюць таму, што ў цябе вачэй няма і сляпіцаю да людзей у вочы лезеш.*

***Сержык Чылікін-Садэльскі.***

### ПСЕЎДАНІМ

Сержык свае нататкі і допісы друкуе ў газетах за подпісам Сержык-Чылікін-Садэльскі. Сержык Чылікін-Садэльскі – гэта Сержыкаў псеўданім. Праўдзівае ягонае прозвішча Чылікін. Чылікіны паходзяць з Раданшчыны. Але ягоны тата і сам Сержык ужо нарадзіліся і гадаваліся на Беларусі.

А духоўным Сержыкавым жыццём выпала апекавацца мне, і вельмі ж хацелася, каб і з ягонага прозвішча была відаць і мая роднасць з ім. Вось я і прапанаваў Сержыку падпісваць свае нататкі, замалёвачкі двайным прозвішчам: Сержык Чылікін-Садэльскім. Гэтак часам Садэльскім называлі калісь у маленстве мяне. То чаму прападаць гэтаму прыгожаму прозвішчу?! Хай ім карыстаецца на здароўе Сержык. Праз яго мая роднасць з Сержыкам, і маё духоўнае апякунства.

### ЯШЧЭ І РЭДАКТАР

Было досыць позна. Сержыкава бабулька перад тым, як выключыць святло, сказала:

- Ну, усё, Сержык, закрывай вочкі і будзем спаць!

На што Сержык адказаў:

- Я не магу закрыць вочы: у мяне на іх няма замкоў!

Я адчуў: стрэліла смяшынка. Але мне падалося, што гэтай смяшынцы не стае аднаго ўдакладнення: вочы не ***закрываюць***, а ***заплюшчваюць***. Але Сержык рашуча не пагадзіўся з маёй прапановай:

- Не, дзядулька, сказаў ён. – Гэта правільна, што вочы заплюшчваюць, а не закрываюць. Але гэтага рабіць не трэба. Ад такога ўдакладнення разбураецца смяшынка. Твой дадатак – гэта ўжо якоесь павучанне. А дзе павучанне, там ужо няма гумару...

Я мусіў пагадзіцца з Сержыкам. І ягоная смяшынка сталася такой: "Бабулька, выключаючы святло, кажа ўнуку:

- Закрывай, хлопчык, вочкі ды будзем спаць!

На што хлопчык шустра адказаў:

- Я не магу закрыць вочы: на маіх вачах няма ні завесаў, ні замкоў".

***Сержык Чылікін-Садэльскі, вучань 4-га класа пачатковай школы № 216 г. Менска***

### *Балада пра мову*

*Ой, народ беларускі,*
*Чаму ты больш размаўляеш па-руску?!*
*Гэтак нельга рабіць,*
*Свой знакаміты род губіць.*
*А нашы продкі стварылі яе вякамі,*
*З гэтай мовай нас Бог у свет пусціў.*
*А вы пра яе забылі,*
*Бяду сабе здабылі.*
*Забыць мову родную – гэта грэх.*
*А ў нас грахоў такіх цэлы мех.*

*Гэтую баладу пра мову я напісаў у школе, на ўроку самападрыхтоўкі. Яе чытаў дырэктар нашай школы, і ён сказаў: "Усё вельмі добра, толькі канцоўку трэба змяніць". А канцоўка была такая: "Трэба назад сваю мову набыць, а пра чужую, рускую, назаўсёды забыць!" І яшчэ дырэктар дадаў: "Чым больш чалавек ведае моў, тым ён разумнейшы". І я з ім згадзіўся.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 21. 01. 2002 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 9.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
Кошт у розніцу: 120 руб.